АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

21 кастрычніка 1999 года
Цана 40 000 рублёў

№ 42 (2652)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.


ЮБІЛЕІ

## ІНСТЫТУТУ ГІСТОРЫІ — 70 ГАДОЎ





**15 кастрычніка споўнілася 70 год з дня заснавання адной з найважнейшых навуковых устаноў краіны — Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, які ўзнік на базе некалькіх кафедраў адпаведнага профілю. У той перыяд ішло станаўленне беларускай дзяржавы, і пытанне пра тое, хто мы ёсць і адкуль будзем, набывала асаблівае гучанне і значэнне. З першых дзён утварэння інстытута вучоныя, а сярод іх былі найвыдатныя спецыялісты, сапраўдныя "зоркі", разгарнулі даследаванні па ўсіх перыядах гісторыі Беларусі. І сёння іх важкі ўклад у айчынную і сусветную навуку з поўным правам можна назваць сапраўды неацэнным, асабліва, калі ўлічыць, у якіх складаных умовах даводзілася працаваць. Семдзесят год — імгненне ў гісторыі і доўгі, нярэдка цярністы шлях у жыцці людзей. Аб'яднаць, зрадніць вечнасць і сучаснасць — адна з задач гісторыкаў. Поспехаў ім!**

**(Артыкул да сямідзесяцігоддзя Інстытута гісторыі НАНБ чытайце ў наступным нумары нашай газеты).**

**НА ЗДЫМКАХ: дырэктар Інстытута гісторыі М. КАСЦЮК адкрывае мемарыяльную дошку на будынку ў Мінску ў сувязі са 110-годдзем з дня нараджэння У. Ігнатоўскага. Тут у 1920-я гады размяшчаўся Інстытут беларускай культуры; выданні, падрыхтаваныя ў апошні час супрацоўнікамі інстытута.**

ФЕРМЕРСКАЯ СЯМ'Я



Сем гадоў вядзе сваю справу фермерская сям'я Панкрата Брынчука. Але толькі два гады назад вызначылася спецыялізацыя гэтай невялікай гаспадаркі з Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Акселерацыйнае трусаводства прыцягнула ўвагу фермера. Гэты метад развядзення жывёл базіруецца на кругласутачным безнарматыўным кармленні пры дапамозе кармушак-аўтаматаў. Эканамічная выгада развядзення пушыстага звярка падобным метадам ужо дае вынікі. Экалагічна чыстае дыетычнае мяса трусоў карыстаецца нязменным попытам у насельніцтва, яго ахвотна купляюць і для харчавання ў дзіцячых садах, санаторыях, рэстаранах.

Панкрат Панкратавіч расшырае сваю міні-ферму і збіраецца павялічыць яе ў некалькі разоў. У яго планах давесці пагалоўе трусоў да пяці тысяч.

НА ЗДЫМКАХ: Панкрат БРЫНЧУК у сябе на ферме; фермерская сям'я БРЫНЧУКОЎ.


БелТА.

АНШЛАГ



## Таццяна БАНДАРЧУК: «ЦЫРК І СМЕХ— ЛЕПШЫЯ ЛЕКІ АД СУМУ»

*Мы ідзём у цырк са сваімі дзецьмі, каб бачыць іх шчаслівыя твары. Мы ведаем: там будуць, як заўсёды, клоуны, акрабаты, музыка. Там будзе смех і радасць.*

*Сёлета Беларускі цырк распачаў свой сорак першы сезон. Яго адкрылі артысты славутага маскоўскага цырка імя Юрыя Нікуліна, якія прывезлі ў Мінск новую праграму "Зоркі сусветнага цырка". Мы ўбачым дрэсіраваных мядзведзяў, сабачак, магічны ілюзіён, акрабатаў. Гонар праграмы — марскія львы. Заслужаныя артысты Расіі Васіль і Таццяна Цімчанкі, якія працуюць з гэтымі жывёламі, з'яўляюцца адзінымі ў свеце дрэсіроўшчыкамі камандорскіх сівучоў. Лічыцца, што з-за іх буйных памераў (вага дасягае паўтары тоны) з імі больш цяжка працаваць, чым з іншымі марскімі львамі.*

*У дырэктара і мастацкага кіраўніка мінскага цырка Таццяны Бандарчук з маскоўскім цыркам даўнія сувязі. Менавіта там шмат гадоў працавала знакамітая акрабатка Таццяна Бандарчук. Наш карэспандэнт гутарыць з дырэктарам мінскага цырка.*

— Беларускі цырк — адзін з лепшых у СНД. Я б сказала, што пасля маскоўскага гэта цырк нумар два. У Мінск любяць прыязджаць артысты, у нас прэстыжна выступаць. Сёння нават самыя буйныя цыркі Расіі адчуваюць дэфіцыт гледача. У нас жа такога няма. Прадстаўленні ў мінскім цырку праходзяць заўсёды пры поўнай зале.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

ЭКАНОМІКА

# НАФТАВАЯ РАКА Ў СТАЛЁВЫХ БЕРАГАХ



Беларусь не Кувейт. Уласнай нафты не хапае для загрузкі двух нафтаперапрацоўчых заводаў, прадпрыемстваў нафтахіміі. Сыравіну для іх работы даводзіцца набываць у Расіі. Паступае яна ў асноўным па магістральнаму трубаправоду, пабудаванаму ў 1964 годзе для паставак савецкай нафты з промыслаў Татарыі і Куйбышаўскай вобласці ў Польшчу, Венгрыю, ГДР, Чэхаславакію і названаму з меркаванняў ідэалогіі незвычайна для падобных збудаванняў — "Дружба".

На карце Беларусі да апошняга часу гэта нафтавая рака ў сталёвых берагах не была пазначана з-за сакрэтнасці. А працягнулася яна на 679 кіламетраў з усходу на захад праз усю краіну, перасякаючы сотні разоў аўтамабільныя дарогі і чыгункі, рэкі і каналы, непраходныя балоты. Тады ж, у 1964 годзе, для абслугоўвання магістральнага газапровода было створана гомельскае прадпрыемства транспарту нафты "Дружба". Як паведаміў яго дырэктар Аляксей Касцючэнка, сёння праз нафтаправод прапампоўваецца амаль столькі ж нафты, як і ў лепшыя гады, — каля палавіны экспартных аб'ёмаў расійскай нафты. Гэты нафтавы паток — 180 тысяч тон у суткі — у Мазыры раздвойваецца: адна труба ідзе на Украіну і далей у Славакію, Чэхію, Венгрыю, другая — у Польшчу і Германію.

— Мы, — тлумачыць дырэктар, — па сутнасці, звычайная транспартная арганізацыя, якая прымае груз па колькасці і якасці на ўваходзе і здае яго без страт і зніжэння якасных характарыстык на выхадзе, беручы за сваю работу адпаведную плату. Прыцягальнасць гэтага напрамку для расійскіх экспарцёраў несумненная, таму мы ставім задачу — павялічыць аб'ём прапампоўкі нафты, што азначае павелічэнне валютнай выручкі дзяржавы.

Распрацавана і пачала ажыццяўляцца праграма тэхнічнага пераўзбраення магістральных нафтаправодаў "Дружба", разлічаная да 2005 года.

Прымаемыя меры, несумненна, адаб'юцца на прыцягальнасці беларускага транспартнага калідора, дазволяць павялічыць прапускную здольнасць нафтаправода. Дарэчы, найбольшая велічыня яе лімітуецца магчымасцямі польскага ўчастка — 42,5 мільёна тон. У 1999 годзе, згодна з дагаворам з расійскай кампаніяй "Транснафта", плануецца прапампаваць 37 мільёнаў тон, а ў наступным, 2000 годзе, выйсці на ўзровень 40 мільёнаў тон.





Адкуль жа возьмуцца дадатковыя аб'ёмы нафты? Мяркуецца, што яны з'явяцца пасля завяршэння будаўніцтва нафтаправода з Казахстана да Самары, калі па "Дружбе" пойдзе казахстанская нафта. Вось таму вялікую цікавасць да нафтаправода "Дружба" праяўляюць расійскія і замежныя кампаніі, якія гатовы ўкладваць у рэканструкцыю сродкі, каб была магчымасць павялічыць аб'ём прапампоўкі казахскай нафты.

Прыцягальнасць маршруту, тлумачаць спецыялісты, залежыць ад надзейнасці працы нафтаправода і тарыфнай палітыкі. Па гэтых параметрах "Дружба", бадай, па-за канкурэнцыяй. Працуе без нараканняў з боку ўладальнікаў нафты, тарыфы апошнія тры гады застаюцца нязменнымі і вельмі прыцягальнымі.

**Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ.**



НА ЗДЫМКАХ: сховішчы нафты на лінейнай вытворча-дыспетчарскай станцыі "Мазыр"; у аператарскай станцыі "Мазыр"; у жылым пасёлку нафтавікоў Бабовічы; стыкоўка труб на ўчастку газаправода, які рамантуецца.

**БелТА.**

МІЖНАРОДНЫЯ СТАСУНКІ

# АМЕРЫКАНСКІЯ ЯЎРЭІ ЦІКАВЯЦЦА ЖЫЦЦЁМ БЕЛАРУСКІХ

● **Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

На працягу двух дзён у Беларусі знаходзілася дэлегацыя кіраўнікоў Амерыканскага яўрэйскага камітэта і Нацыянальнай канферэнцыі ў падтрымку савецкіх яўрэяў. Яны прыехалі, каб бліжэй пазнаёміцца з Беларуссю, з дзейнасцю яўрэйскіх грамадскіх, рэлігійных і культурных арганізацый, якія дзейнічаюць на тэрыторыі нашай краіны. Члены дэлегацыі правялі некалькі афіцыйных сустрэч. Яны былі прыняты намеснікам кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Іванам Пашкевічам, намеснікам міністра замежных спраў Сяргеем Мартынавым і старшынёй Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Аляксандрам Білыкам.

Пра акалічнасці апошняй сустрэчы і тэмы гутаркі з замежнымі гасцямі нам расказаў сам спадар Білык. Паводле яго слоў, дэлегацыя даведалася пра гісторыю стварэння камітэта і пра яго задачы: рэгуляванне канфесійных і міжканфесійных адносін у дзяржаве, курыраванне дзейнасці аб'яднанняў нацыянальных меншасцей і падтрымку беларускай дыяспары за мяжой. "Я ім расказаў пра нашы задачы, пра тое, што мы надаём гэтым праблемам вялікае значэнне, бо на постсавецкай прасторы было і зараз існуе яшчэ шмат канфліктаў на нацыянальнай глебе, — кажа Аляксандр Білык. — Я таксама сказаў, што камітэт быў створаны не таму, што ў нас ёсць нейкія вострыя праблемы, а каб вывучаць іх і не дапусціць паўтарэння непажаданых сцэнарыяў у Беларусі. А потым размова перайшла да таго, што Дзяржкамітэт апрача іншых курыруе яўрэйскія рэлігійныя арганізацыі, а таксама нацыянальна-культурныя, дапамагае вырашаць іх праблемы. Гэта найперш адраджэнне адукацыі, стварэнне новых абшчын, вяртанне будынкаў сінагог".

А. Білык адказаў на пытанні гасцей адносна выпадкаў праяўлення антысемітызму, якія іншы раз здараюцца ў нашай краіне, і пра тое, якія намаганні прыкладае дзяржава, каб выключыць іх. "Айчыннае заканадаўства ўтрымлівае ўсе неабходныя ўмовы, каб спыніць падобныя праявы", — падкрэсліў кіраўнік Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей. Але такія здарэнні, як лічыць А. Білык, адбываюцца ў Беларусі не сістэмна, а з-за недахопу выхавання ў грамадстве, у выніку хуліганскіх выхадак. У Беларусі няма арганізаваных груп, якія б займаліся антысеміцкай дзейнасцю", — заўважыў А. Білык.

Праблема антысемітызму не такая вострая для беларускіх яўрэяў, як адраджэнне абшчын ці атрыманне памяшканняў для сінагог. Як вядома, у свой час у будынках сінагог былі размешчаны іншыя ўстановы: грамадскія, спартыўныя і г. д. Таму сёння вяртанне гэтых памяшканняў бачыцца даволі складаным. Дзяржкамітэт спрабуе дапамагчы, але канчатковыя рашэнні прымаюць мясцовыя ўлады, бо нерухомасць менавіта ў іх распараджэнні.

Падчас знаходжання ў Мінску члены дэлегацыі пабывалі на адкрыцці Абшчыннага фестывалю яўрэйскай кнігі, сустрэліся з лідэрамі яўрэйскіх абшчын, наведалі мемарыяльны помнік ахвярам халакоста "Яма" і мемарыяльны комплекс "Хатынь".

## МАЗы МЯРКУЕЦЦА ЗБІРАЦЬ У КІТАІ

Мінскі аўтазавод мае намер стварыць у Кітаі сумеснае прадпрыемства па зборцы 2 тысяч грузавых аўтамабіляў у год. Паміж кіраўніцтвам Мінскага аўтазавода і прадстаўнікамі кітайскага боку падпісаны пратакол аб стварэнні сумеснай групы, якая зоймецца распрацоўкай прапаноў па арганізацыі сумеснага прадпрыемства. Прадстаўнік Мінскага аўтазавода выказаў думку, што стварэнне зборачнай вытворчасці на тэрыторыі Кітая мэтазгоднае пры ўмове ўключэння гэтага праекта ў Стратэгічную праграму развіцця аўтамабільнай галіны Кітая. Гэта дасць магчымасць павысіць канкурэнтаздольнасць прадукцыі за кошт зніжэння часткі падатковых адлічэнняў.

Папярэдне мяркуецца, што ў Кітаі будуць створаны магутнасці, разлічаныя на зборку 2 тысяч аўтамабіляў маркі "МАЗ". Плануецца з машынакамплектаў, што будуць пастаўляцца ў Кітай, збіраць самазвалы МАЗ-5516, магістральныя цягачы, а таксама дарожна-будаўнічыя і камунальныя машыны на базе шасі Мінскага аўтазавода.

Мінскі аўтамабільны завод раней стварыў зборачныя заводы на тэрыторыі Польшчы і Егіпта. У 1998 годзе ў краіны далёкага замежжа з улікам пастаўкі машынакамплектаў было прададзена каля 400 аўтамабіляў. Мяркуецца, што аб'ём паставак у далёкае замежжа павялічыцца ў 2 разы.

## АДПАВЯДАЕ ЕЎРАСТАНДАРТУ

Першымі ў СНД сталі выпускаць накрыўкі "Твіст-офар" на Ляхавіцкім заводзе металапластмас. Прадпрыемства на конкурснай аснове дабілася крэдыту Еўрабанка і запусціла лінію па выпуску накрывак, якая адпавядае ўсім патрабаванням еўрастандарту. Прадукцыяй ляхавіцкага завода зацікавіліся кансервавыя і перапрацоўчыя заводы Расіі, Малдовы, краін Балтыі.

БелТА.

## ПРОДАЖ ДАРОЖНЫХ ЧЭКАЎ

ПРІОРБАНК, што ўваходзіць у шасцёрку найбуйнейшых банкаў Беларусі, пачынае продаж дарожных чэкаў American Express у доларах ЗША і нямецкіх марках. Пры пакупцы чэкаў за наяўны разлік бярэцца камісія ў памеры 1 працэнта, пры безнаяўным разліку — 1,5 працэнта. Чэкі паступілі ва ўсе філіялы банка ў Мінску. Чакаецца, што ў бліжэйшы час яны з'явяцца ў іншых філіялах. Як патлумачылі ў ПРІОРБАНКУ, свабодна можна набыць чэкі на суму да 500 мінімальных заработных плат па курсу Нацбанка Беларусі. Здзелка на суму больш за 500 мінімальных зарплат праводзіцца пры наяўнасці даведкі аб прадастаўленні дэкларацыі ў падатковую інспекцыю. Акрамя таго, банк прадае дарожныя чэкі Tomas Cook, а таксама камерцыйныя чэкі Германіі, Літвы і Польшчы. Усе чэкі наміняраваны ў доларах ЗША і нямецкіх марках. Да аплаты ў ПРІОРБАНКУ прымаюцца любыя дарожныя і камерцыйныя чэкі.

60 ГОД УЗ'ЯДНАННЯ БЕЛАРУСІ

# ЯК ГЭТА БЫЛО?

**18 гадоў «за польскім часам».** З 400 беларускіх школ, што працавалі на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1921 годзе, да 1928 года засталося 29, а ў 1934 — 16. Былі закрыты 2 настаўніцкія семінарыі (у Барунах і Свіслачы), 8 беларускіх гімназій. Да таго ж педагогаў набіралі пераважна з палякаў, якія не толькі самі не ведалі беларускай мовы, але і дзецям забаранялі размаўляць па-беларуску.

Моцны націск аказваўся на беларускі грамадскі рух. Улады вышуквалі розныя прычыны, каб закрываць беларускія літаратурныя, іншыя грамадскія аб'яднанні, выдавецтвы, бібліятэкі, клубы. Асабліва праследавалася беларуская прэса. Калі ў 1927 годзе легальна выдаваліся 23 беларускія газеты і часопісы, то да 1930 года іх засталося ўсяго 12, а да 1939 — толькі прапольскія і клерыкальныя выданні.

Што тычыцца рэлігіі, то і тут роўныя правы канфесій былі толькі фармальнасцю. Існавала нават практыка гвалтоўнага захопу цэркваў і ператварэння іх у касцёлы. Паводле даных даклада Адама Станкевіча, беларускага каталіцкага святара, аднаго з лідэраў беларускага хрысціянскага руху (даклад захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва), больш за 1 300 праваслаўных храмаў былі такім чынам ператвораны ў касцёлы, дзе богаслужэнне праводзілася толькі на польскай мове, да таго ж беларусы-каталікі, а іх у Заходняй Беларусі было каля 950 тысяч, па афіцыйным перапісе 1921 года, былі запісаны як палякі.

Не прызнаваўся нават сам тэрмін "Заходняя Беларусь", яе называлі "крэсы ўсходнія" (усходнія ўскраіны), ці Белапольшча.

**Працяг.**
**Пачатак у № № 38—39, 40—41.**



ДАБРАЧЫННАЯ АКЦЫЯ

# «УСМЕШКА» ДАПАМАГАЕ СІРОТАМ



Сёлета Мінск наведала група сусветна вядомых медыкаў з Англіі. У саставе англійскай дэлегацыі былі хірург, кансультант па пластычных аперацыях Макс Грэгары, доктар Дэніс Уэджвуд, Філіп Браун, Ліндэн Камільер, Ян Грынвей і іншыя. Гэтая акцыя адбылася пры садзейнічанні Беларускага дзіцячага фонду і дабрачыннай беларуска-англійскай праграмы дапамогі дзецям-інвалідам "Усмешка".

Па статыстыцы, у Еўропе сярэдні паказчык нараджэння дзяцей са сківічна-тваравымі дэфектамі складае 0,6—1,6 чалавека на тысячу нованароджаных. На жаль, паказчык



хворых дзяцей на Беларусі значна вышэйшы — ад 1,2 да 2,4 на тысячу дзяцей. Асноўнымі прычынамі паталогіі лічацца генетычная схільнасць, сацыяльныя і экалагічныя ўмовы, у прыватнасці, забруджванне паветра, прадуктаў харчавання цяжкімі металамі.

Як правіла, дзяцей са сківічнай паталогіяй чакае сіроцкі дом — ад нованароджаных бацькі адмаўляюцца яшчэ ў радзільным доме. Таму і беларуска-англійская праграма "Усмешка" прадугледжвае аказанне дапамогі перш-наперш хворым сіротам: правядзенне бясплатных пластычных аперацый, забеспячэнне клінікі неабходным абсталяваннем.

За тыдзень візіту замежныя спецыялісты сумесна з хірургамі Мінскай абласной дзіцячай клінічнай бальніцы паспяхова правялі 8 паказальных аперацый, кожная з якіх цягнулася тры з паловай — чатыры гадзіны.

За тры гады на Беларусі было зроблена каля 150 такіх аперацый. Але дапамагчы ўсім хворым беларускім дзецям сваімі сіламі практычна немагчыма з-за недахопу сучаснага абсталявання. Місія дэлегацыі — толькі першы крок да вырашэння праблемы прыроджаных дэфектаў. Прадстаўнікі групы выказалі надзею, што "Усмешка" ўсміхнецца кожнаму хвораму сіраце Беларусі.

**НА ЗДЫМКАХ: аперацыю кансультуюць хірургі з Вялікабрытаніі Макс ГРЭГАРЫ і Дэніс УЭДЖВУД (справа); медсёстры Дэніс МАРЦІН і Катрын БІДЖЭМАН з маленькім пацыентам.**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**

ЗДАРЭННІ

## ВЫМАГАЛЬНІКІ ЗАТРЫМАНЫ

Першага кастрычніка ў Мінску супрацоўнікамі Камітэта па арганізаванай злачыннасці затрыманы двое жыхароў Калінінграда, якія, пагражаючы фізічнай расправай, вымагалі 35 тысяч долараў у аднаго з дырэктараў таварыства з абмежаванай адказнасцю.

## ТЭЛЕФОННЫЯ «МІНЁРЫ»

Сёлета ажно пяць разоў "мініравалі" Гродзенскі дзяржуніверсітэт, чатыры разы — Слонімскі вакзал, двойчы — Ашмянскі райвыканкам і санаторый "Радон". А ўвогуле на Гродзеншчыне зафіксавана 26 паведамленняў аб быццам бы закладзеных выбуховых прыстасаваннях.

Не ўсіх "мінёраў" міліцыі ўдалося вылічыць, але некаторым з іх "далі па руках".

## ВЫВАЛІЎСЯ З АЎТОБУСА

Нядаўна загінуў адзін з лідэраў пастаўскай раённай арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Мікалай Цішчанка. Загінуў недарэчна. Быў работнік прааваахоўных органаў цяпер займаўся прадпрымальніцтвам. Адправіўшыся ў Расію па чарговую партыю тавару на арэндаваным аўтобусе, ён вываліўся з яго ў раёне Вялікія Лук. Аўтобус качнула, а Цішчанка, які курыў ля задніх дзвярэй, выпадкова націснуў на кнопку аўтаматычнага адкрыцця. Расійскія медыкі былі бяссільныя.

АВАНГАРД




# МАСТАЦТВА НА МЕЖАХ МАСТАЦТВА

Зміцера Вішнёва, Канстанціна Міхеева, Альгерда Бахарэвіча і іншых аўтараў часопіса, прадэкламаваныя імі са сцэны, выклікалі ў многіх з прысутных пачуццё нерэальнасці, абсурднасці:

"Я ўсьміхнуўся
грымеў глухім голасам
у слоік складаў настрой — ласось
жаваў нейкую гадасьць
што вельмі нагадвала засохлую радасьць"...

або:

"пес
лёс
лось
зьнёс
не
злавіць
і
ня трэба".

Узнікненню незвычайнай атмасферы спрыяла таксама ігра акцёраў "Тэатра псыхічнай неўраўнаважанасьці" і дэманстрацыя авангардных работ мастакоў А. Іванова, А. Рыбчынскага і С. Ждановіча. Скончылася прэзентацыя выступленнем рок-гурта "Правакацыя"...

"Часопіс літаратурных правакацый" — так можна ахарактарызаваць часопіс "**nihil**", прэзентацыя якога адбылася напрыканцы верасня ў Доме літаратара. Гэта выданне, заснаванае "Новым фронтам мастацтваў", безумоўна, зацікавіць прыхільнікаў авангарда і нават пацешыць іх сенсацыйнымі "адкрыццямі" ў беларускай літаратуры.

Так, аказваецца, часопіс "nihil" першым "атрымаў доступ да нядаўна знойдзенага твора Якуба Коласа". Твор гэты ў час вайны быццам быў выратаваны супрацоўнікам НКУС, якому загадалі "праглынуць найбольш каштоўныя дакумэнты з архіву, абгорнутыя ў знакамітыя слуцкія паясы"! На старонках часопіса нават прыводзіцца тэкст гэтага верша, "папсаваны, на жаль, страўнікавым сокам" і таму не зусім зразумелы:

і я я я я а л я сыкча до пітрубы
п і і і і а л і і а у л і й і я
...і
і г. д..

Увогуле, творы Вальжыны Морт,

Новы часопіс выклікаў неадназначную рэакцыю: нехта лічыць такую літаратуру высокім мастацтвам, нехта — трэшавай культурай (ад англ. trash — "адкіды, макулатура"). Аднак, як адзначыла пісьменніца Вольга Іпатава, "галоўнае ў тым, што гэты часопіс прымушае працаваць нашу фантазію, уваходзіць у свет ірэальнага, свет, без якога мастацтва немагчымае."

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

## ВІЧ-ІНФЕКЦЫЯ НАСТУПАЕ

Пачынаючы з 1987 года, дыягназ "ВІЧ-інфекцыя" быў пастаўлены 2 600 жыхарам нашай краіны.

**З аднаго боку, агульная колькасць новавыяўленых ВІЧ-інфіцыраваных беларусаў на працягу апошніх трох гадоў працягвае змяншацца (1996 год — 1 021, 1997-мы — 654, 1998 — 450, за восем месяцаў гэтага года — 259 чалавек), а з другога — ВІЧ-інфекцыя пастаянна пашыраецца ў нашай краіне на ўсё новыя і новыя тэрыторыі. Так, з чэрвеня 1996 года да сённяшняга дня колькасць адміністрацыйных тэрыторый, уцягнутых у эпідэмічны працэс, павялічылася з 17 да 76 адзінак.**

Паступова змяншаецца сярод ВІЧ-інфіцыраваных і доля моладзі ва ўзросце ад 15 да 19 гадоў: у 1997 годзе іх колькасць складала 25 працэнтаў, у 1998 — 14, а сёлета, як мяркуецца, гэты паказчык прыпыніцца на адзнацы 8—9 працэнтаў. Як сведчаць сацыялагічныя апытанні, аб праблеме распаўсюджвання СНІДу ведаюць у розных рэгіёнах краіны ад 60 да 90 працэнтаў моладзі. Але 60 працэнтаў апытаных упэўнены, што асабіста іх пагроза заражэння ВІЧ-інфекцыяй не закране.

# «НАВІНКІ-99»

## ПЕРШЫ МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ «ПЕРФОРМАНСА» Ў МІНСКУ



Цяпер ужо і ў Мінску ведаюць, што такое "перформанс". Публіка валам валіла ў Палац мастацтва, дзе праходзіў Першы міжнародны фестываль перформанса. Многія палічылі, калі праводзіцца нейкі фестываль, няхай сабе і з назвай "Навінкі-99" (менавіта ў гэтым месцы пад Мінскам размешчана клініка для псіханеўралагічных хворых), значыць тут мае месца мастацтва. Тых жа, хто назіраў "перформанс" і не разумеў убачанага, — раздражняліся. Між тым, і еўрапейскія, і айчынныя спецыялісты падобныя відовішчы лічаць адной з прагрэсіўных плыняў мастацтва, якая адлюстроўвае нашу рэчаіснасць з яе СНІДам, наркаманіяй, войнамі і насіллем.

Перформанс — сродак самавыяўлення, магчымасць з дапамогай музыкі, што гучыць падчас дзейства, пластыкі, эмоцый ускалыхнуць гледача, прымусіць хваляваццца, заінтрыгаваць, нават шакіраваць.

У мяне ж склалася ўражанне, што гэта, хутчэй, гульні для дарослых. Нешта ўзята з фільмаў жахаў, нешта з тэатра абсурду. Я стаяла сярод юнакоў і дзяўчат у душнай, самай маленькай зале Палаца мастацтва, глядзела, як хлопец пад жудасную разбуральную музыку носіць на руках дзяўчыну ў бінтах, потым вызваляе яе ад іх, кладзе голую на падлогу, апранае сукенку, і думала: што ў гэтым новага і цікавага? Адказ ёсць, але ён у кожнага свой.



Сучасны чалавек занадта шмат ведае пра сябе і свет. Ён баіцца таго, на што здольны. Ён баіцца сам сябе. Адзін з перформераў імітуе, быццам разрэзае сабе жывот і дастае вантробы. А выцягвае мікрасхемы і аркушы паперы. Сапраўды, а што ў нас ёсць яшчэ? Душа? Можа і не верым мы ўжо ў душу? Адчуванне, што яна ўсё ж існуе, але нездаровае — вось галоўнае, што вынесла я з убачанага на фестывалі. Праўда, на запланаванае калектыўнае шоу "Запой у правінцыі" я не пайшла...

Застаецца дадаць, што ўсё гэта экзатычнае прадстаўленне наладзіла асацыяцыя "Сучаснае мастацтва". У ім узялі ўдзел перформеры з 9 краін Еўропы.

**Алена СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКАХ: моманты фестывалю.**

**Фота БелТА.**

# ХРОНІКА ПАДЗЕЙ

**Парламенцкая барацьба.** Жорсткі курс польскіх уладаў, накіраваны на апалячванне беларускага насельніцтва, быў сустрэты ў Заходняй Беларусі нацыянальна-вызваленчым рухам. Адным з яго этапаў стала парламенцкая барацьба.

Згодна з Рыжскім дагаворам і Канстытуцыяй Польшчы, нацыянальныя меншасці павінны былі атрымаць усе палітычныя правы, у тым ліку выбарчае. Выкарыстоўваючы гэтую магчымасць, беларусы прынялі актыўны ўдзел у выбарах у польскі сейм і сенат, якія праходзілі ў лістападзе 1922 года. І хаця закон аб выбарах дапускаў яўную дыскрымінацыю (палякі выбіралі аднаго прадстаўніка ад 50 тысяч чалавек, жыхары "крэсаў усходніх" — ад 100 тысяч), беларусы змаглі правесці ў парламент 14 сваіх прадстаўнікоў: 11 паслоў у сейм і 3-х сенатараў. Гэта былі вядомыя беларускія дзеячы Браніслаў Тарашкевіч, Сямён Рак-Міхайлоўскі, Адам Станкевіч, Пётр Мятла, Фабіян Ярэміч, Васіль Рагуля і іншыя, якія прадстаўлялі практычна ўсе беларускія палітычныя партыі. У снежні 1922 года беларуская паслы прынялі ўдзел у выбарах першага польскага прэзідэнта і галасавалі за Габрыэля Нарутовіча. Дарэчы, тое, што Нарутовіча падтрымлівалі прадстаўнікі нацменшасцей, стала адной з прычын яго забойства польскімі шавіністамі праз некалькі дзён пасля абрання прэзідэнтам.

На самым пачатку сваёй дзейнасці беларускія парламентарыі аб'ядналіся ў Беларускі пасольскі клуб і сталі актыўна выступаць у абарону свайго народа. Акрамя работы ў сейме і сенаце, пасыланы матэрыялы аб становішчы беларусаў у Лігу нацый, кіраўнікам Польскай дзяржавы, ішлі ў народ, праводзячы пасольскія мітынгі. У канцы 1925 года група паслоў (Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Валошын, Мятла) стварылі легальную палітычную арганізацыю — Беларуская сялянска-рабочая грамада. За кароткі час існавання гэтая партыя аб'яднала ў сваіх шэрагах каля 120 тысяч чалавек і стала ўплывовай сілай, што не магло не насцярожыць польскія ўлады. У сакавіку 1927 года грамада была забаронена, больш за 400 яе членаў арыштаваны пад суд, а чацвёра парламентарыяў, якія ўзначальвалі партыю, асуджаны на 12—13 гадоў турмы.

Пасля выбараў 1928 года беларусы мелі ў парламенце 13 сваіх дэпутатаў. Большасць з іх былі прадстаўнікамі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Створаная ў 1923 годзе, яна завявала вялікі аўтарытэт у беларускага насельніцтва. У польскім сейме прадстаўнікі КПЗБ стварылі сваю фракцыю — Беларускі пасольскі клуб "Змаганне". Гэта дала партыі магчымасць удала сумяшчаць легальную і нелегальную формы працы. Але тэрор польскіх улад узмацняўся.

**Святлана ЖЫДКАЯ, БелТА.**

**МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ**







# КІТАЙ: «СЛАЎНЫ ШЛЯХ, АДМЕТНАЯ КУЛЬТУРА»

Блізіцца да завяршэння шматлікія мерапрыемствы, прысвечаныя 50-годдзю з дня ўтварэння Кітайскай Народнай Рэспублікі. У рамках юбілейнай праграмы былі праведзены разнастайныя конкурсы, віктарыны, святочныя канцэрты. Падведзены вынікі конкурсу студэнцкіх работ, аўтары якіх разглядалі самыя розныя аспекты кітайскай культуры. На вечарыне, наладжанай у Доме дружбы, лаўрэаты гэтага конкурсу атрымалі спецыяльныя прызы, уручаныя ім Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом КНР у Беларусі спадарыняй У Сяоцю. Завяршыўся тыдзень кітайскага кіно, які даў беларускім гледачам цудоўную магчымасць пазнаёміцца з майстэрствам кітайскіх кінематаграфістаў. Тыя ж, хто не трапіў у гэты бурны паток святочных мерапрыемстваў, могуць не засмучацца, у іх яшчэ ёсць шанс пазнаёміцца з сапраўднымі жамчужынамі кітайскай культуры — мастацтвам кітайскага веера і вышыўкі.

Ці ведаеце вы, што гісторыя кітайскага веера бярэ свой пачатак у III стагоддзі да нашай эры? Вядома некалькі відаў вееpаў — бамбукавы, трысняговы, шаўковы. Існавала традыцыя напісання вершаў на адным баку веера і мастацкага роспісу — на другім. У цяперашні час веер амаль страціў сваё практычнае прызначэнне і перайшоў у разрад упрыгажэнняў. Дзякуючы высокай якасці выканання, кітайскі веер — сапраўдны прадмет мастацтва. Славіцца Кітай таксама шаўковай вышыўкай — гэтаму віду прыкладнога мастацтва ўжо больш за 3 000 год.

Традыцыйным жанрам кітайскага жывапісу з'яўляецца "гохуа" — карціны пішуцца чорнай або шэрай тушшу, якая спецыяльным пэндзлікам пераносіцца на шоўк ці паперу. Дарэчы, пісаць карціну на веерах — адзін з любімых стыляў майстроў "гохуа". Пазнаёміцца з гэтымі цудоўнымі ўзорамі кітайскага мастацтва можна на выставе "Слаўны шлях, адметная культура", якая праходзіць з 24 верасня па 27 кастрычніка ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Тут жа можна пазнаёміцца і з выставай "Гісторыя КНР у фотаздымках", дзе прадстаўлены унікальныя кадры кітайскага жыцця за апошнія 50 год. А напярэдзе нас чакаюць выступленні пекінскай оперы, яны адбудуцца ў Мінску з 20 па 29 кастрычніка.

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**



**Фота Сяргея ШЫРАЕВА.**

НА ЗДЫМКАХ: спадарыня У СЯОЦЮ ўручае прыз курсанту Ваеннай акадэміі Макару ШВЕДУ; экспанаты выставы "Слаўны шлях, адметная культура".

**СЯБРОЎСКІЯ СУВЯЗІ**

# СУСТРЭЧЫ НА БЕРАЗЕ ДАЎГАВЫ

**Калекцыя беларускага адзення, якую дэманстравалі ў Рызе майстры лепельскага Дома рамёстваў, склала 17 мадэляў. Потым лепельскія строі падарылі беларускай дыяспары. Аўтарамі адзення некальк: Алена Лазар — мадэльер, Наталля Петухова — ткачыха, Алена Карніловіч і Тацяна Ільенка — вышывальшчыцы, Людміла Казачонак займалася вырабам галаўных убораў, Алена Мацеша спляла паясы для касцюмаў.**

Вось пра што яны расказалі:

— Дэманстрацыя нашай калекцыі праходзіла ў цэнтры нацыянальнага адзення "Сэна Клэтс". Гэта прыватны швейны салон, гаспадыняй якога з'яўляецца Марута Грасманэ. Рыжане заказваюць там адзенне, каб быць у ім на нацыянальных святах. Добрая традыцыя, проста цудоўная! Мы ж думалі: "Ого, багатая жанчына, ёй усё даецца лёгка, не так, як нам". А на справе аказалася, што Марута таксама працуе на голым энтузіязме. Хоць да яе паслуг камп'ютэрныя распрацоўкі мадэляў, выставачная зала, страт бывае больш, чым прыбытку. Але Марута не схіляе галавы перад цяжкасцямі. Мы знайшлі ў ёй не толькі аднадумцу, а шчыра захопленага сваёй справай чалавека. Дні беларускай культуры ў Рызе падарылі нам натхненне, яшчэ больш сяброў, новыя знаёмствы. Напрыклад, разам з намі ў Рыгу ездзілі майстры па саломапляценню з Мінска Аляксандр і Галіна Грэсі. З пакалення ў пакаленне перадавалася ў іх сям'і каштоўнае рамяство, і цікава было пераняць іх вопыт. А колькі адбылося сустрэч з пісьменнікамі, мастакамі, дзеячамі латвійскай і беларускай культуры! З боку новых сяброў мы сустрэлі жывы інтарэс да нашых спраў. Яны перапісалі касеты з відэазапісамі фальклорных песень ансамбля "Рэчанька" раённага Дома культуры.

Захапляльны расказ пра купальскія святы! У нас — Іван Купала, у латышоў — святы Ян. І кожны паказваў, як у іх мясцовасці святкуюць гэта. Усе разам кідалі вянкі ў Даўгаву, хлопцы скакалі за імі проста ў адзенні. Многа, канечне, было яркага, цікавага. А самае запамінальнае — гэта тое, што наша Ула ўпадае ў Заходнюю Дзвіну, яна ж потым ператвараецца ў Даўгаву. Значыць, існуе паміж намі непарыўная сувязь, устаноўленая самой прыродай.

Інфармацыя пра Дні культуры Беларусі ў Латвіі сёлета заняла першыя палосы цэнтральных газет дзвюх краін. Прэстыж нашай дзяржавы, як заўважала прэсслужба МЗС, у ходзе гэтага свята быў падтрыманы. Ёсць у гэтым заслуга нашых землякоў — работнікаў лепельскага Дома рамёстваў. Яны ў складаных умовах з дня ў дзень робяць сваю справу. І справа гэта служыць яднанню, шырокім сяброўскім сувязям. Важна, каб не перапыніліся яна, каб і надалей давала плён, радавала ўсіх новымі поспехамі і дасягненнямі.

**Л. БАРАДЗЕЙКА.**

Лепельскі раён.




*Беларускія майстры ў Рызе.*

**БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ**

● Ларыса ЯЗЫКОВІЧ, *кандыдат гістарычных навук.*

# РЭЛІГІЙНА-ЦАРКОЎНАЕ ЖЫЦЦЁ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

Надзея некаторых беларускіх палітычных і рэлігійных дзеячаў на тое, што фашысцкая Германія паспрыяе развіццю самастойнага нацыянальна-дзяржаўнага і рэлігійнага жыцця Беларусі, не спраўдзілася. Значная колькасць іх пасля другой сусветнай вайны апынулася на эміграцыі. Працяглы час савецкія ўлады абвінавачвалі іх у калабарацыянізме. Але трэба памятаць і такую трагічную старонку жыцця Беларусі, як рэпрэсіі 30-х гадоў, у ходзе якіх былі вынішчаны амаль усе каталіцкія святары на Беларусі, а таксама значная колькасць праваслаўных. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што менавіта рэпрэсіі падштурхнулі некаторых беларускіх нацыянальных, культурных, рэлігійных дзеячаў таго часу да супрацоўніцтва з немцамі, можа нават для пэўнага выкарыстання іх у сваіх мэтах, а ў далейшым пасля заканчэння вайны да эміграцыі.

У заходнееўрапейскіх краінах, дзе апынулася значная колькасць беларусаў пасля другой сусветнай вайны, большасць насельніцтва — гэта католікі. Таму і беларусы рыма-каталіцкага веравызнання мелі там больш шырокае, чым праваслаўныя, поле дзейнасці, атрымлівалі і адчувалі маральную і матэрыяльную падтрымку з боку Ватыкана. Дзякуючы падтрымцы Рыма, для вернікаў-беларусаў на эміграцыі з цягам часу былі створаны спрыяльныя ўмовы. Былі выдадзены малітоўнікі для ўсходняга і лацінскага абрадаў, з'явіўся беларускі каталіцкі друк на эміграцыі. Сярод беларускіх каталіцкіх часопісаў, якія выдаваліся на эміграцыі, былі такія, як "Божым шляхам", "Зніч", "Слова божае", "Беларус на чужыне", "Адраджэнне", "Хрысціянскія навіны"...

Радыё Ватыкана першым у свеце з 1950 года пачало рыхтаваць беларускія перадачы. Кіраўніком беларускай секцыі ватыканскага радыё ў 50-я гады быў ксёндз П. Татарыновіч, беларус па паходжанню. Гэтыя радыёперадачы працягваюцца і ў наш час. Змест іх пераважна рэлігійны, але ёсць матэрыялы па гісторыі Беларусі, яе культуры, сучасным жыцці. Зараз беларускай секцыяй радыё Ватыкана кіруе айцец Р. Тамушанскі, таксама прадстаўнік беларускай эміграцыі.

У каталіцкіх універсітэтах Еўропы нароўні са студэнтамі іншых краін атрымлівалі дапамогу ў набыцці адукацыі і беларусы. Найбольш вядомым у гэтых адносінах з'яўляецца каталіцкі універсітэт у бельгійскім горадзе Лювене, які прызначыў 40 стыпендый для студэнтаў-беларусаў. У тых краінах, дзе знайшліся беларускія каталіцкія святары, а таксама вернікі-беларусы, з дазволу Ватыкана і дзяржаўных уладаў гэтых краін былі ўтвораны беларускія каталіцкія місіі. Іх кіраўнікамі прызначаліся беларусы. Так, у Англіі рэктарам Беларускай рэлігійнай каталіцкай місіі ў першыя пасляваенныя гады быў айцец Чэслаў Сіповіч, у Францыі — айцец Леў Гарошка, у Германіі — айцец Міхась Маскалік, у Бельгіі — айцец Францішак Чарняўскі. У наш час дзейнічаюць беларускія каталіцкія місіі ў Англіі (Лондан), Францыі (Парыж), якімі кіруе айцец А. Надсон. Папа Рымскі прызначыў для беларусаў-католікаў заходняга і ўсходняга абрадаў у Заходняй Еўропе асобнага Апостальскага візітатара. У 1960—1981 гадах ім быў біскуп Чэслаў Сіповіч, у 1983—1986 — біскуп Уладзімір Тарасевіч. У наш час Апостальскім візітатарам для беларусаў-католікаў абодвух абрадаў з'яўляецца айцец Аляксандр Надсон.

Сярод каталіцкіх святароў на эміграцыі вельмі цікавыя постаці. Гэта была інтэлектуальная эліта беларускай эміграцыі: Я. Германовіч, П. Татарыновіч, Л. Гарошка, Ф. Чарняўскі, Ч. Сіповіч, М. Маскалік, А. Надсон. Яны не толькі рэлігійныя дзеячы, але і літаратары, публіцысты, вучоныя-тэолагі. Жыццё і дзейнасць кожнага з іх выклікае цікавасць. Напрыклад, Ч. Сіповіч стаў першым каталіцкім біскупам — беларусам па паходжанню.

Найбольш вядомая сёння дзейнасць Беларускай каталіцкай місіі ў Вялікабрытаніі, якая вядзе вялікую душпастырскую, харытатыўную, культурна-грамадскую працу сярод беларускіх эмігрантаў у Англіі. З дапамогай Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі, ахвяраванняў простых вернікаў, а таксама з фінансавай падтрымкай Ватыкана ў Лондане быў абсталяваны беларускі дом, названы Марыйскім у гонар святой Дзевы Марыі. У доме была створана царква святога Пятра і Паўла. У 1961 годзе побач з Марыйскім домам была адкрыта школа імя святога Кірылы Тураўскага для беларускіх хлопцаў на эміграцыі нягледзячы на іх веравызнанне. У 1971 годзе пры Марыйскім доме ў Лондане была створана беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны. Шмат сіл на ўтварэнне бібліятэкі паклалі Я. Германовіч, Л. Гарошка, Ч. Сіповіч. Зараз бібліятэкай імя Ф. Скарыны ў Лондане кіруе айцец А. Надсон. У нашы дні гэта добра вядомая ў свеце ўстанова. Яна мае амаль 15 тысяч кніг пераважна на беларускай мове альбо якія маюць дачыненне да Беларусі. Бібліятэка — адна з найбагацейшых у заходнім свеце на матэрыялы па беларусазнаўству. Бібліятэка мае шмат рэдкіх кніг, газет, беларускіх часопісаў, якія перад другой сусветнай вайной друкаваліся ў Вільні і іншых гарадах.

Працяг.
Пачатак у №№ 38—39, 40—41.



З НІЗКІ АПАВЯДАННЯЎ "НЕПАМЯРКОЎНЫЯ..."

# БОГУ ЛЕПШ НЕ ПРЫСЯГАЦЬ

**Леанід МАРАКОЎ**

"Гэтая ноч апошняя, іншых не будзе. І туды больш ніколі не пайду, — пераконваў сябе ён, стоячы на каленях перад абразом. — Хто я? Ніхто! Усё вырашаюць яны. Яны і ёсць звяры. Я толькі паслугач...

Якой доўгай была гэтая апошняя ноч... Яны выводзілі іх і выводзілі... Здавалася, гэтаму ніколі не будзе канца. І я страляў... Што я мог зрабіць? Калі не я — ёсць іншыя. Але тады б і мяне... Гэтаксама, у патыліцу... А я хачу жыць. У мяне дзеці. Іхнія дзеці. Расстраляных... Шасцёра!.. Яшчэ тады, калі гэта было першы раз, я вырашыў шукаць іхніх дзяцей і, па магчымасці, усынаўляць. Слава, Алена, Святлана, Зіна... Яны не ведаюць, што я забойца, што я кат... Яны любяць мяне, спадзяюцца на мяне: "Тата заўсёды што-небудзь смачненькае прынясе". Калі б яны ведалі, што тое смачненькае ўсе гэтыя гады прыносілі іх бацькам... "Не хвалюйцеся, перададзім, — супакойвалі тых, хто прыносіў, а самі сабе дадавалі: — Мёртвым ежа не патрэбна..."

Гэтая ноч мяне канчаткова даканала. Такога яшчэ не было. Дзевяць паэтаў, і ўсіх забіць павінен я... З імі, вядома, хлопцы "папрацавалі". Паэты не маглі самі рухацца, і іх давялося цягнуць. Але найгорш за ўсё было тое, што яны маўчалі... Не патрабавалі справядлівасці, не звярталіся да Бога, нічога не даказвалі... Яны маўчалі і глядзелі... Глядзелі скрозь мяне, як сляпыя... Здавалася, што яны пакінулі ўжо гэты свет. Я ведаў: яны падпісалі, што з'яўляюцца "ворагамі народа". Яны — любімцы гэтага народа, які сваім маўчаннем здрадзіў ім... У гісторыі "амерыканкі" яшчэ не было тых, хто не падпісаў сабе прысуд. На першы, дзесяты ці соты дзень, у свядомасці ці не, але тое, аб чым тут "прасілі", падследны рана ці позна падпісваў. Тыя, хто не мог цяпер ісці, проста доўга трымаліся... Цяпер у іх не было ні рана, ні позна, цяпер наперадзе была толькі смерць, і я падумаў, што ўсё будзе, як заўсёды. Але яны паміралі моўчкі... І гэта было самае жудаснае. Калі б яны прасіліся — было б лягчэй, было б, як звычайна... Яны маўчалі, і я пачаў злавацъ. Значыць, мог прамахнуцца... Промах — страляй зноў, а гэта яшчэ адзін патрон. І калі не пацэліш яшчэ раз, то гэта ўжо разбазарванне, шкодніцтва. Тады мяне таксама могуць спісаць... А спісваюць тут усіх аднолькава... Мяне — то няхай. Я за сваё жыццё ўзяў ужо сотні іншых. Вось дзеці... Ім без мяне не выжыць..."

На трэцім прыгавораным у ка́та затрэслася рука: паэт пасля выстралу ўпаў, але было бачна, што ён яшчэ дыхае... На сёмым смертніку не вытрымаў пісталет — асечка... Перад дзевятым забойца ўжо масіраваў анямелы "ўказальны", але палец як адрэзала... І ён страляў левай... "Дзякуй Богу, патрапіў!.. Які жах! Што я сказаў: "Дзякуй Богу, што не прамазаў, гэта значыць дзякуй Богу, што забіў... Божа, ратуй..." — працягваў кат сваю малітву...

Была глыбокая ноч, і ён не заўважыў, як ягоны шэпт пaступова перайшоў у размову з самім сабой, а потым і ў крык: " Я павінен жыць, а каб жыць, павінен забіваць. У гэтай краіне ёсць толькі два варыянты: альбо ты той, хто забівае, альбо забіваюць цябе... І калі ты не забіваеш фізічна, ты забіваеш сваім рабскім маўчаннем, рабскім жаданнем выжыць... Раб тут і той, хто забівае, бо ён забівае з-за страху быць забітым. Краіна забойцаў-рабоў, людзей-ахвяр і маўклівага народа... Хто закруціў гэтае вар'яцкае кола ў Богам забытай краіне? Аднаму такое не па сілах..."

Спіной кат адчуў холад. "Гэта погляд, — падказаў розум, — на мяне глядзяць". І ён павярнуўся. Заспанымі вачыма за ім назірала самая маленькая з шасцярых дзяцей. Яна намачыла пасцель і на мокрым спаць не хацела. Іншага месца не было, і дзяўчынка моўчкі пайшла ў пакой таты... Таты ж ноччу ніколі не бывае... Раней ён не разумеў, чаму "яго" дзеці ніколі не плакалі. Ён не меў уласных дзяцей, але добра памятаў, як плакаў сам. Гадоў да дзесяці з прычыны і проста так ён не даваў маці спакою. Гэтыя ж дзеці, нават моцна ўдарыўшыся, ніколі не плакалі, як быццам не адчувалі болю. Нібы нежывыя. "Божа, пра што я? Ужо дзеці мерцвякамі здаюцца. Усё! Спішуць! Спішуць і заб'юць. І правільна зробяць... Занадта многа я ведаю, яшчэ больш зрабіў... Хаця Бог мяне пакуль не пакараў... Можа і не дарэмна я маліўся ўвесь гэты час... Не дарэмна..."

Дзяўчынка легла ў пасцель "бацькі" і, слухаючы звыклы шэпт, заснула.

Як заўсёды, кат прачнуўся каля дванаццаці, праспаўшы сваю норму — шэсць гадзін. Ён быў задаволены: выспаўся, значыць зноў зможа працаваць. Рукі не будуць дрыжаць, і яго не спішуць. Ён ужо не памятаў пра свае начныя малітвы, зрэшты, як і заўсёды, калі прачынаўся...

Па кватэры бегалі дзеці, і кат, як клапатлівы бацька, пaглядзеў, што засталося з ежы... "Смачненькае" ўжо скончылася... Але нічога, ён прынясе. Вечарам ён зможа вырвацца, вечарам працуюць іншыя. Ягоны час — ноч... І ён пайшоў... Па "смачненькае"...

А старэйшым, трынаццацігадовай Алене і на год маладзейшаму Славу, у тую ноч спаць не хацелася, і яны толькі драмалі. Крык "Я павінен забіваць!" канчаткова іх разбудзіў. Анямеўшы ад жаху, яны слухалі бацькаву "споведзь" да канца...

Як і звычайна, кат вярнуўся глыбокай ноччу. Не распранаючыся, дастаў схаваную ікону, прыставіў да сцяны і, пагладзіўшы яе, укленчыў...

Гэтага моманту ўсю ноч толькі і чакалі Алена са Славам. Падрыхтаваўшыся да сустрэчы з "татам" і чакаючы яго, яны баяліся толькі аднаго — заснуць. Але хваляваліся яны дарэмна, спаць зусім не хацелася: занадта моцным было ўражанне ад пачутага. Укленчаны кат да гэтага часу стаяў у іх перад вачыма... І яны чакалі. Галоўнае, даведацца, хто іхнія бацькі... І яшчэ трэба спыніць звера. Яны спыняць толькі аднаго, але спыняць самі, і гэта будзе іх першая перамога... Але спачатку трэба даведацца прозвішчы...

"Божа! Гэта апошні..." — чарговы раз пачаў кат свой маналог...

Увесь дзень на пустэчы Алена адпрацоўвала ўдар вялікай і тоўстай палкай. І нават вечарам, калі "бацька" прынёс "смачненькае" і зноў пайшоў на працу, да знямогі працягвала біць дубінай па зямлі... Зрабіўшы некалькі соцень удараў, яна пачала хвалявацца: ці не заб'е яго адразу, трэба ж даведацца прозвішчы...

Удар па патыліцы прамоклай дубінай атрымаўся амаль бясшумным. Малодшыя працягвалі спаць. Не прачнулася і самая маленькая...

Кат моўчкі ўпаў, і Слава накінуўся на яго. Вяроўка за доўгія гадзіны чакання намокла ў ягоных руках, але неўзабаве яму ўдалося звязаць ненавіснага чалавека... "Чалавека? — перапытаў сябе Слава. — Не, не чалавек ён..."

Апрытомнеў кат у цемнаце... Дзеці не змаглі абудзіць яго і вырашылі, што ён мёртвы, выцягнулі цела ў двор і праз сад, што быў за домам, дацягнулі да пустэчы, дзе і засыпалі мокрай ад ранішняй расы зямлёй. Вярталіся яны, калі ўжо развіднела, але нікога не сустрэлі... У дамах, што сталі паміж іх домам і пустэчай, жылі толькі "татавы калегі па рабоце"...

Слой зямлі быў невялікім, але тонкаяануча, што закрывала вочы і рот, не давала магчымасці крычаць і бачыць, толькі дазваляла дыхаць...

Кат ужо апрытомнеў і паспрабаваў вырвацца з "пекла", але звязаныя рукі і ногі не давалі шансу на вызваленне. Цяпер і для яго наперадзе была толькі смерць. Але моўчкі, як тыя паэты, ён сустракаць яе не жадаў. Кат выў, мычаў, стагнаў... Хутка ён заціх...

У жаху, нямеючы, кат адчуў подых зямлі... Да яго набліжаліся госці... І неўзабаве ён іх пазнаў...

ВЫСТАВЫ







## ДЗЕВЯЦІГАДОВЫ ІКАНАПІСЕЦ

У Брэсцкім музеі "Выратаваныя мастацкія каштоўнасці" прайшла выстава дзевяцігадовага іканапісца Георгія Панайотава. З 153 напісаных юным мастаком ікон у Брэсце экспанавалася 82. Яны створаны па ўсіх царкоўных канонах. Раскрыў юны талент балгарскі мастак Рашка Бонеў з Вяліка-Тырнава, дзе цяпер жыве хлопчык. Благаславілі Георгія на творчасць айцец Генадзій, свяшчэннік Свята-Мікалаеўскай царквы ў Брэсце, дзе захоўваецца першая ікона хлопчыка, і айцец Славі з храма Святога Мікалая ў балгарскім горадзе Вяліка-Тырнава. Нягледзячы на свае балгарскія карані, Георгій — ураджэнец Брэста. Яго мама Іна Бясан — брастчанка, а бацька — балгарын Хрыста Панайотаў.

НА ЗДЫМКАХ: юны іканапісец Георгій ПАНАЙОТАЎ і яго работы.

БелТА.

ВЫБРАННІКІ ВЕЧНАСЦІ

# АРФЕЙ ВЯРТАЕ ЭЎРЫДЫКУ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).**

С. Законнікаў заўсёды лічыў П. Панчанку сваім настаўнікам, захапляўся ім як асобаю і паэтам, вучыўся ў яго няўрымслівасці і мужнасці, сумленнасці і рашучасці, "жаданаму нерушу пачуццяў шчырых, добрых слоў". Яшчэ ў першым зборніку "Бяседа" паэт плённа працягвае традыцыі панчанкаўскай лірыкі пачуцця "высокага напружання":

**Вусны — суніцы.**
**Вочы — крыніцы.**
**Сустрэнеш, убачыш —**
**Не надзівіцца.**
**Сцежка вузенька —**
**Як размінуцца.**
**Позірк,**
**як поўдзень,**
**Дотык нясмелы.**
**Толькі б з дарогі**
**не аступіцца.**

Як некалі сумленне французскай нацыі Б. Паскаль любіў дапамагаць людзям, ахвяруючы ўласным дабрабытам (нават спецыяльна арганізаваў для бедных амнібусны рух, які паклаў пачатак сучаснаму грамадскаму транспарту), так і самому С. Законнікаву давялося ратаваць нямецкую дзяўчынку на славяна-лужычанскім возеры Балатон: "Раптам пачулася нейкае пялёхканне, цялёпканне і здушаны хрыплы дзіцячы крык. Сеў, агледзеўся. І праўда, метраў за шэсцьдзесят ад плоціка ў хвалях то паказвалася, то прападала русявая галоўка, мільгалі стомленыя ручкі. Бачна было, што малое выбілася з сіл і тоне. Малое ўжо хлебнула вады, зусім знемаглося. Калі я абняў худзенькае цельца, перавярнуўся на бок і, прыўзняўшы галоўку дзіцяці над вадою, скіраваў назад, да плоціка, то яно паводзіла сябе надзвычай спакойна, не чаплялася мёртваю хваткаю, як гэта робяць звычайна тапельцы. Я вырас на ўшацкіх азёрах і рэках, бачыў шмат здарэнняў на вадзе, сам тануў, даводзілася ратаваць людзей, аднойчы выцягваў дзяцей з ледзяной купелі ў снежні месяцы..." ("Вячэра пад райскім дрэвам"). Дарэчы, гэтая апасродкаваная тэма ўратавання Эўрыдыкі як прыгажосці, чысціні жыцця вельмі кранальна і шчыра прагучала ўжо ў першым зборніку паэта ў вершы "Алёнка":

**Пазайздросце сёння мне, паэты,**
**Кіньце рыфмы, праганіце сум.**
**Я нясу кавалачак Сусвету,**
**Будучыню нашую нясу.**

**А яна смяецца без прычыны,**
**Як вада ў вясновым раўчуку...**
**Я нясу маленькую дзяўчынку,**
**Я нясу суседчыну дачку.**

**Асцярожна крочу, каб не ўпасці,**
**І плыве сцяжынка ля ракі...**
**Не маё, але такое шчасце**
**Туліцца шчасліва да шчакі...**

Увогуле лірычнага героя С. Законнікава вызначае нейкае асабліва шчымлівае стаўленне да дзяцей, глыбіннае бачанне праблем дзіцячай душы:

**У бабулі не хапіла ласкі —**
**Збегла да суседачкі сваёй...**
**А Наташка так хацела казкі**
**Толькі ёй на вушка, толькі ёй.**
**Каб у казцы бег да ўнучкі лесам**
**Смешны і бясстрашны калабок,**
**Каб былі ў ёй прынцы і прынцэсы,**
**Шэры воўк і цуда-церамок.**

**А Наташы так патрэбна казка,**
**Як цяпло для сцішанай зямлі.**

На кантрастным супастаўленні гіпербалы і літоты (як некалі верш Ф. Багушэвіча "Дурны мужык, як варона") пабудаваны твор Сяргея Законнікава "Сляды", каб паказаць непарыўную нітку повязі пакаленняў, "нібы воку сляза, ачышчальная памяць", папярэднікаў з нашчадкамі:

**След шырокай і цвёрдай хады,**
**Паабапал —**
**слядочкі,**
**слядочкі...**
**Гэта я,**
**іду праз гады,**
**Па рамонку ў руках —**
**мае дочкі.**
**Бачу — там,**
**дзе знікаюць гады,**
**Што без жалю спяшаюцца**
**ўпрочкі,**
**Прападаюць мае сляды...**
**Застаюцца**
**Алёны слядочкі.**
**Зарастаюць мае сляды...**
**Застаюцца**
**Святланы слядочкі.**

Лірычны герой С. Законнікава сваёй шчымлівай любоўю да роднай зямлі, яе людзей, сівой мінуўшчыны вельмі родпасны антычнаму Арфею:

**Адвечнай роднасці вязьмо**
**Сціскае сэрца аж да болю.**
**Зямля прыслала мне пісьмо —**
**За шыбай жоўты ліст сваволіць.**
**І гавару я сам з сабою:**
**"Сціскай мяне,**
**сціскай мацней,**
**Вязьмо надзеі і любові..."**

Паэт падзяляе спрадвечна беларускае (часоў Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны, Івана Ужэвіча, Мялеція Сматрыцкага, Сімяона Полацкага, Ianікія Галятоўскага, Дзімітрыя Растоўскага, Афанасія Філіповіча) стаўленне да слова як да найвялікшага маральнага імператыва, да "святога святых" (перад працай над чым патрабавалася сапраўднае ачышчэнне глыбінь патаемных сэрца і думкі):

**Без стомы ўсё жыццё шукаць**
**збавення**
**У тых радках, што сэрцам**
**падсцярог...**
**Ты толькі не прыводзь мяне,**
**натхненне,**
**Ніколі да няпраўды на парог.**

Законнікаўскі лірычны герой быццам бы жыве духоўнымі аксіёмамі чалавека вялікага розуму і вялікага сэрца, апантаным імкненнем да ўдасканалення як у сферы творчасці, так і ў асабістым жыцці:

**Прыходзіць незвычайная хвіліна,**
**Калі вастрэе слых, пільнее зрок,**
**І нібы гронку росную рабіна,**
**Раптоўна сэрца выспеліць радок.**

Лірычны герой Сяргея Законнікава не толькі прызначэнне свайго жыцця бачыць у служэнні Айчыне:

**Пішаш і слову даверліва верыш,**
**Пакуль не прыйшло да цябе**
**адкрыццё,**
**Што самым апошнім праўдзівым**
**вершам**
**Усё застаецца тваё жыццё, —**

але і заклікае да гэтага нас, чытачоў, заклікае шанаваць Радзіму, яе кніжнасць, людзей "бліжніх і дальніх", заклікае да паўнаводнай "рэчкі любові" — і менавіта ў гэтым ён бачыць шлях да годнага існавання нашай краіны ў сусветнай супольнасці.

**АНШЛАГ**




# ЦЫРК І СМЕХ — ЛЕПШЫЯ ЛЕКІ АД СУМУ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Мы спадзяемся, што і ў гэтым сезоне ўсё застанецца гэтак жа. Тым больш, што праграма сёлета вельмі цікавая і якасная.

У нашым цырку чыста і ўтульна, як нідзе. Тут няма кірмашу. Ведаеце, у некаторых цырках гандлююць усім — пачынаючы ад паветраных шароў (што нармальна), заканчваючы ювелірнымі вырабамі. І яшчэ ёсць непрыемная тэндэнцыя. Артыст бывае адпрацуе высокакласны нумар і ў грыме бяжыць падчас антракту ў фае, каб прадаць нейкія сувеніры. У нас артысты не выходзяць гандляваць.

Я разумею, што жыццё дарагое, але супраць таго, каб у Мінск прыязджалі танныя цыркавыя праграмы. Вядомыя артысты, якія спазналі поспех і ведаюць, што такое добрыя ганарары, не пойдуць прадаваць усялякую драбязу.

**— У такім разе, наколькі даступная забава — цырк?**

— У нас ёсць білеты па 200 000 тысяч (каля 30 цэнтаў). Месцы на першых радах каштуюць 2 000 000 рублёў. Таму на ваша пытанне магу адказаць так: цырк даступны, але ўсе білеты быць таннымі не могуць. Праграма павінна акупляцца.

**— Мінскі цырк з'яўляецца дзяржаўным. Як ён датуецца?**

— Дзяржава нам дапамагае часткова. Міністэрства культуры выдзяляе сродкі на рамонт, на стварэнне новых беларускіх праграм. Але запрашаць у Мінск артыстаў мы павінны за свае грошы. Тое, што ў Мінску паказваецца праграма высокага ўзроўню, а не





самадзейнасць, — наша заслуга.

**— Каб прыйсці ў цырк, патрэбны пэўны настрой...**

— Так. Вакол нас — даволі шмат адмоўных эмоцый і абстаноўка ўвогуле нервовая. Мы хочам стварыць людзям свята, даць магчымасць адпачыць. Цырк — шанс на 2 гадзіны забыцца пра свае праблемы, акунуцца ў атмасферу азарту, святла і радасці.

**— Кажуць, што цырк — гэта своеасаблівая псіхатэрапія. Вы згодныя з такой думкай?**

— Я наогул лічу, што пачынаць выхаванне дзіцяці трэба з наведвання цырка, тады яно не вырасце нікчэмным чалавекам.

**— Што дае цырк людзям, якія ў ім працуюць?**

— Цыркавыя артысты — людзі асаблівыя. Яны прывыклі да рызыкі, небяспекі. Цырк дае магчымасць рэалізаваць сябе.

**— Што вы можаце сказаць наконт жорсткасці ў абыходжанні з жывёлай у цырку?**

— Цяпер у нас выступаюць сівучы — марскія львы. Хто не ведае, ніколі не здагадаецца, якія яны цудоўныя эквілібрысты. Гэтыя жывёлы вельмі пластычныя, маюць шмат іншых здольнасцяў. Іх падкормліваюць рыбай і такім чынам прымушаюць рабіць цуды. Дзякуючы дрэсіроўшчыку, людзі даведаліся, што сівуч — разумная, таленавітая істота. Але часам у дрэсуры выкарыстоўваецца жорсткасць. Магу сказаць, што я яе не прымаю.



**— Таццяна Мікалаеўна, што асабіста вам найбольш падабаецца ў цыркавым мастацтве?**

— Паветраны палёт, гімнастыка — гэта тое, чым я не магу не захапляцца. Што такое трук? Маленькі цуд. Зрабіць яго, выканаць славутае трайное сальта-мартале можа толькі незвычайны чалавек. Глядач жа вучыцца здзіўляцца і радавацца талентам іншых, вучыцца непасрэднасці. Таму мяне здзіўляюць людзі, якія не любяць цырк, ставяцца да яго паблажліва, быццам і не мастацтва гэта ў поўным сэнсе слова. Я ўпэўнена, на самай справе цырк — спалучэнне некалькіх мастацтваў. Гэта сапраўднае відовішча, дзе ёсць музыка, святло, харэаграфія. Наш артыст — і трукач, і драматычны акцёр.

Дарэчы, мы сумесна з маскоўскім цыркам плануем прапанаваць Міністэрству культуры ўтварыць прэмію ў галіне гэтага віду мастацтва. Яно вартае таго.

**— Што змянілася ў мінскім цырку за апошнія гады?**

— Пэўны час наш цырк быў толькі месцам пракату праграм. Беларускія артысты выступаюць па кантрактах у замежных цырках. Пакуль я не магу запрасіць іх у Мінск на пастаянную працу, бо не ў стане прапанаваць ім дастойны заробак. Але ў наступным годзе спадзяюся на выпуск праграмы беларускага калектыву. Артысты нашы цікавыя, вынаходлівыя, таленавітыя, у іх ёсць будучыня. А значыць, яна ёсць і ў Беларускага цырка. Пакуль жа мая мэта — паказваць у Мінску лепшыя праграмы, якія існуюць у свеце.

**Алена СПАСЮК.**

НА ЗДЫМКАХ: у мінскім цырку.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА**

**Максім БАГДАНОВІЧ**

## ЗМЯІНЫ ЦАР

Ў цёмным небе — хараводы
Сіняватых зорак,
Ў цёмным небе свеціць месяц
Залатым сярпом...
Мы выходзім з цесных, душных
Падзямельных норак,
На зімовы цёплы вырай
Цягнемся-паўзём.

Ў полі, ў лесе — нам усюды
Праляглі дарожкі!
Йстужкай рушымся між пушчы,
На сам перад — я.

Зіхацяць маёй кароны
Залатыя рожкі,
Цёмным бляскам адлівае
Ўся луска мая.

Нам не трэба ні ад чога
Ноччу абароны:
Ўбачыць знахар — пуць усцеле
Белым палатном;
Залаты ражок яму
Я ўраню з кароны,
І па белай палатніне
Дальш мы папаўзём.

КАНЕЦ ВЕРАСНЯ... Час, калі прырода пачынае рыхтавацца да працяглага зімовага сну, час першых замаразкаў. "На Узвіжанне халат з плеч, а кажух на плечы", — кажуць у народзе. Свята Узвіжанне адзначаецца 27 верасня, у гэты дзень царква ўшаноўвае крыж, на якім быў распяты Ісус Хрыстос. І хоць у верасні ідзе так званае "ціхае паляванне" — збор грыбоў, 27-га мала хто адважыцца пайсці ў лес. "Ва Узвіжання пару гадзюкі і вужы хаваюцца ў нару", і таму, як кажуць, у гэты дзень тысячы змей выпаўзаюць са сваіх сховішчаў, каб апошні раз пагрэцца на сонцы. Потым яны схаваюцца аж да першага грому, які разбудзіць зямлю і дасць ім знак аб вяртанні назад. Вось чаму ў гэты дзень сяляне старанна зачынялі дзверы і вароты, баючыся, каб гадзюкі не запаўзлі ў гумно, дрывотню ці хлеў. Як сведчыць легенда, змеі, нацешыўшыся апошнімі сонечнымі промнямі, збіраюцца ў адно месца, каб паўзці на зіму ў вырай. Паўзуць яны пад камандаю свайго цара. Цар гадзюк і вужоў вызначаецца сярод іншых вялікімі памерамі і наяўнасцю залатой кароны (або залатых рожкаў), што вянчае яго галаву. І той, хто не пабаіцца пайсці ў гэты дзень у лес, можа сустрэць цара вужоў і нават прыдбаць яго чароўную карону.

Для гэтага трэба разаслаць на зямлі белы льняны ручнік і стаць перад царом на калені. Вуж скіне з галавы карону на ручнік і, не зачапіўшы чалавека, папаўзе далей, а за ім і ўсе вужакі. Чалавек жа з дапамогай



незвычайнага падарунка набываў жыццёвую мудрасць, мог лёгка выйсці з самых складаных сітуацый, надзяляўся здольнасцямі ўгадваць чужыя думкі. Акрамя таго, ён станавіўся загавораным і па тым часе не мог быць укушаны гадзюкай.

Увогуле ж нашы продкі вельмі шанавалі вужоў, і калі вуж з'яўляўся ў хаце, гаспадыня заўсёды карміла яго свежым малаком і ні ў якім разе не выкідала з хаты галодным. А вясковыя жыхары нават да гэтага часу лічаць шчаслівым прадказаннем, калі ў хаце пасяліўся вуж — гэта абавязкова павінна прынесці дому багацце.

**Падрыхтавала Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

**Леанід МАРАКОЎ**

## СОНЯ

Не ўлажыць Дзіянку спаць, —
Лялькі, відэо і цацкі
Не даюць ёй засынаць, —
А нястомна, з смехам, хвацка
З ёй працягваюць гуляць...

З раніцы ж ля яе ложка
Уся сям'я ў рад стаіць:
Мама, тата, братка, кошка
Соню хочуць разбудзіць...

Не прайшло і дзве гадзіны,
Як Дзіянка ў сад прыйшла.
Глянь! У Санькі імяніны!
Елі дыню, апельсіны...
Торт быў смачны...
Ужо няма?
Вінаватая сама!..

Вынік з нашага расказу
Дзецям трэба ведаць зразу:
Не кладзіся ў ложак спаць,
Калі час ужо ўставаць.

**СКОРАГАВОРКІ**

— Адна сарока, адна марока, сорак сарок, сорак марок.

— Дзятлы дзюбамі дзяўблі дзеравіну.

— Ішоў поп каля коп, каля капы, каля паўкапы.

— Каласы каласавалі, каласавалі, выкаласаваліся.

**ГАВОРАЦЬ ДЗЕЦІ**

Ігар:
— Бабуля, ты такая тоненькая! Як думка...

* * *

Ігар спявае песеньку:
— Он ел одну лишь травку...
І раптам здзіўлена:
— А што ён піў? Падумаўшы, сам жа адказвае:
— Мусіць, газіроўку.

* * *

Убачыў хмару, што плыве хутка па небе:
— Ой, неба да некага ўцякае!

**Запісаў у вёсцы Задор'е Лагойскага раёна педагог Канстанцін КАРНЯЛЮК.**


«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

РЭДАКЦЫЯ:
Адказны сакратар **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 625 экз.
Зак. 1975.
Падпісана да друку 18.10.1999 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).